● выдаецца са жніўня 1917 г. БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА ● кошт 3000 рублёў

21 сакавіка 1998 г. субота, № 66 (23417)

# ЗВЯЗДА



## АБВАЛ КУРСА РУБЛЯ СПРАВАКАВАЛІ ПЕРШ ЗА ЎСЁ ПРАЦІЎНІКІ БЕЛАРУСКАГА КІРАЎНІЦТВА

Пытанні забеспячэння нацыянальнай бяспекі краіны і шляхі стабілізацыі курса беларускага рубля, цэн і абароны спажывецкага рынку былі разгледжаны на нарадзе ў Прэзідэнта Беларусі Аляксандра Лукашэнкі. Яна адбылася 20 сакавіка ў рэзідэнцыі кіраўніка дзяржавы з удзелам членаў урада, кіраўнікоў Адміністрацыі Прэзідэнта, Савета бяспекі, Камітэта дзяржаўнага кантролю, Нацыянальнага банка, аблвыканкамаў і Мінскага гарвыканкама.

Здавалася б, праблемы, вынесеныя ў парадак дня, маюць чыста эканамічны характар. Аднак кіраўнік раскрыў сапраўдныя матывы негатыўнай сітуацыі, што ўзнікла ў пачатку сакавіка на валютным рынку краіны. «Калі вярнуцца да гісторыі гэтага пытання, — сказаў Аляксандр Лукашэнка, — то можна ўспомніць мінулы год, калі вялася шалёная барацьба супраць саюза беларускага і расійскага народаў. У прыватнасці, у сродках масавай інфармацыі — як заходніх, так і маскоўскіх».

Прэзідэнт нагадаў, што атацы было падвергнута перш за ўсё беларускае кіраўніцтва за правядзенне палітыкі, якой аддаў перавагу беларускі народ, які выказаў сваю волю на апошніх двух рэспубліканскіх рэферэндумах. Гэта палітыка, як вядома, накіравана на збліжэнне Беларусі і Расіі, умеранае рэфарміраванне нацыянальнай эканомікі, на адмову ад абвальнай прыватызацыі, лібералізацыі цэн і непрадуманага знешняга гандлю. Як адзначыў кіраўнік дзяржавы, масіраваная атака праціўнікаў курсу беларускага кіраўніцтва закончылася поўным правалам. Сведчаннем таго з'яўляецца павелічэнне тавараабароту паміж дзвюма нашымі краінамі на 40 працэнтаў.

Аляксандр Лукашэнка аддаў належнае Камітэту дзяржаўнай бяспекі, Міністэрству замежных спраў і іншым структурам. Яны валодалі сітуацыяй і своечасова інфармавалі кіраўніцтва краіны аб тым, што адбываецца як у рэспубліцы, так і на тэрыторыях сумежных дзяржаў, дзе ўжо некалькі гадоў працуюць падрыўныя цэнтры, у тым ліку і спецслужбаў Захаду, якія дзейнічаюць супраць беларускай дзяржавы.

Паводле слоў прэзідэнта, некаторыя расійскія «дэмакраты» пры маўклівай згодзе афіцыйнай Масквы і падпарадкаваныя ім банкі пачалі атаку на беларускі рубель у Маскве. Ланцужок выстройваецца проста: абрушваецца курс нашай нацыянальнай валюты на маскоўскай біржы, гэты абвал падтрымліваецца беларускімі камерсантамі і прыводзіць да павышэння цэн, а ў выніку — да нездаволенасці насельніцтва. На гэтым фоне з'яўляецца шанц звяржэння беларускага прэзідэнта, замены законнай улады на ўладу, пажаданую Захаду і некаторым колам Расіі. Такім чынам, лічыць Аляксандр Лукашэнка, была б перакрэслена дзеючая цяпер Канстытуцыя Беларусі з усім тым, што з гэтага вынікае.

На думку кіраўніка дзяржавы, такія правакацыі будуць працягвацца. Аб гэтым сведчаць заявы прадстаўнікоў некаторых пасольстваў, мэтавыя сродкі, што выдзяляюцца Захадам, абвінавачанні прэзідэнта і яго акружэння ў карупцыі, якія падаграваюцца сродкамі масавай інфармацыі на Захадзе, у Маскве, а таксама ў Беларусі. «Калі мы не зробім вывадаў, то будзем бітыя на кожным кроку, і не зможам абараніць свой народ», — заявіў прэзідэнт.

У якасці стратэгічных задач Аляксандр Лукашэнка назваў стабілізацыю курса нацыянальнай валюты, рэалізацыю праграм, накіраваных на стабілізацыю цэн, а таксама абарону спажывецкага рынку. Пры гэтым неабходна строгая дысцыпліна. Кожны на сваім узроўні павінен займацца сваімі праблемамі і бачыць бліжэйшую перспектыву. А той, што вінаваты ў тым, што здарылася, будзе пакараны, падкрэсліў кіраўнік дзяржавы.

**Тэрэза ХАЮЦІНА, БЕЛТА.**




Калаж Яўгена ПЯСЕЦКАГА.

*ПРЭМ'ЕРА РУБРЫКІ*

## XXI стагоддзе: усе толькі пачынаецца?!

## 1014 ДЗЁН да пачатку трэцяга тысячагоддзя

**Усе мы — непапраўныя рамантыкі. І не спрабуйце пярэчыць, бо як мінімум раз у год, напярэдадні новага года, мы ўсе як адзін марым, што хутка пачнём жыць лепш, збудуцца ўсе нашы патаемныя жаданні, а ўсё горшае застаецца ў адыходзячым годзе. Кожны новы год мы сустракаем з надзеяй, грандыёзнымі планамі, якіх не паспелі ажыццявіць у старым. Але, як нехта трапна заўважыў, на змену старому прыходзіць не новы, а чарговы год. Са сваімі клопатамі, няўдачамі, няздзейсненымі марамі. Але як бы там ні было, мы ўсё роўна любім навагоднія свята — магчыма, якраз за гэтае хвалюючае чаканне.**

**Уявіце, колькі магчымасцяў у гэтым сэнсе дорыць нам надыход другога тысячагоддзя, якое мы адсвяткуем 1 студзеня 2001 года. Канец года, канец стагоддзя, канец тысячагоддзя... Зрэшты, мы не хацелі б настройваць вас толькі на мінорны лад. Паспрабуем праз жартоўную прызму напрыканцы першага тысячагоддзя паглядзець на нас цяперашніх сур'ёзным позіркам. З якімі думкамі і памкненнямі мы ўступім у другое тысячагоддзе, такім будзе і наша жыццё праз 1014 дзён. Цудаў не бывае, і сваю будучыню робім мы ўжо сёння.**

**Нашым першым суразмоўцам мы прапанавалі адказаць на наступныя пытанні:**

***1. Што вы пакідаеце пасля сябе ў гэтым тысячагоддзі?***

***2. Якую справу вы хацелі б абавязкова паспець зрабіць да 1 студзеня 2001 года?***

***3. Якім вы бачыце сваё жыццё ў другім тысячагоддзі?***

***4. Якую рэч вы ўзялі б з сабой у новае тысячагоддзе з цяперашняга жыцця?***

***5. Як вы сустрэнеце 1 студзеня 2001 года?***

**Уладзімір ГРАЎЦОЎ,** ***генеральны дырэктар аднайменнага агенцтва:***

1. Які след? Хацелася б думаць, што добрае слова сваіх блізкіх, іх памяць. А яшчэ — добрыя справы для іх.

2. Як мага больш ведаў, навыкаў перадаць маёй дачцэ, пазнаёміць яе з разнастайнасцю свету, рознымі працэсамі ў жыцці, магчыма, рознымі краінамі. Навучыць яе ўсяму таму, што ўмею і ведаю сам.

3. Напэўна... Як гаварылі старажытныя, у 20 гадоў чалавек ідэаліст, у 40 — рэаліст. Думаю, што за гэтыя два тысячагоддзі чалавецтва змянілася мала, таму хацелася б верыць падобна чэхаўскаму герою: якая прыгожая прырода і якое прыгожае павінна быць жыццё ў ёй.

4. Мой маленькі жыццёвы вопыт на шляху ператварэння вясковага настаўніка ў бізнесмена сведчыць, што нейкі стрыжань жыцця — духоўная апора. Яго носьбіт — Біблія. Таму ўзяў бы яе з сабой.

5. Я крыху недаверліва і фаталістычна стаўлюся да такіх дат. Заўсёды неяк бесталкова праводжу гэтыя святы. Таму сустрэць другое тысячагоддзе пастараюся або ў шумнай кампаніі, або ў сям'і. Сціплая вэчэра, добрая кніга або фільм.

**Ігар ПЯТРОЎСКІ,** ***кіраўнік прэс-цэнтра Беларускай чыгункі:***

1. Гэта цікава.. Двaix дзяцей!

2. Хацеў бы, каб усё, што перашкаджае нам жыць, засталося ў гэтым тысячагоддзі.

3. Ускладаю надзеі. Амерыканскія вучоныя адкрылі клетку амаладжэння. Думаю, чалавецтва навучыцца лячыць усе хваробы і людзі будуць жыць не 60, а 200—300 гадоў. Мы станем перадавой краінай з высокім узроўнем тэхналогій, жыццё стане лепшым.

4. Акардэон свой, бо мне гэтыя сінтэзатары розныя не патрэбны. Іграць хачу сам, для душы. Камп'ютэр не ўзяў бы, там яны і так будуць. Сад мой абавязкова, лімоны, якія ў мяне растуць і пладаносяць. Словам, больш натуральнага, калі давядзецца жыць у час поўнай аўтаматызацыі.

5. Калі дажыву, мне будзе 40 гадоў. Напэўна, залезу на дах свайго дома, уяўляеш, за ўсё жыццё ніколі не лазіў, пастаўлю стол з крэсламі і буду «пуляць» у неба петарды!

**Валянціна СІМАКОВА,** ***начальнік аддзела распаўсюджвання друку Рэспубліканскага аб'яднання «Белпошта»***

1. Кожны чалавек, як вядома, павінен пасадзіць дрэва, пабудаваць дом і вырасціць дзяцей. Мы з мужам гэтую задачу выканалі. У нас дзве дарослыя дачкі, якім мы далі адукацыю, ёсць, як кажуць, дах над галавой.

2. Хачу, каб кожны жыхар Беларусі меў магчымасць выпісаць столькі перыядычных выданняў, колькі ён хоча. І каб Беларусь стала зноў, як некалі, самай чытаючай рэспублікай.

3. Найперш духоўна багатым. Бачу беларусаў людзьмі з высокім узроўнем культуры. І — поўная адсутнасць прыніжаных і хворых.

4. Кнігі, у нас даволі вялікая бібліятэка.

5. Бачу гэты дзень як усенароднае свята. Чыстае неба, сонейка, на плошчы — тысячы людзей з усмешкамі на тварах. Грае музыка, шмат кветак, усім хораша...

**Аляксандр ГРЭЦКІ,** ***старшыня Камітэта цэн Мінэканомікі:***

1. Дзяцей, якіх я добра выхаваў.

2. Вельмі цікавае пытанне, адразу не адкажаш... Напэўна, нармальна працаваць, без стрэсаў, і атрымліваць ад гэтага задавальненне.

3. Я думаю, што значна лепшым, чым цяпер. Крызіс калі-небудзь скончыцца. У жыцці заўсёды так: спад, пад'ём, спад, пад'ём. Дык вось гэты спад, упэўнены, скончыцца.

4. ...Усё-такі набор ручных інструментаў. Я аматар нешта зрабіць сваімі рукамі.

5. Самае галоўнае пакуль — дажыць да таго дня.

**Сяргей ДЗЕМЯШКЕВІЧ,** ***чэмпіён свету па грэка-рымскай барацьбе, двухразовы чэмпіён Еўропы, бронзавы прызёр Алімпіяды:***

1. Што пакіну пасля сябе ў гэтым тысячагоддзі? Даўгі пакіну. А калі сур'ёзна, то, бадай што, самай значнай падзеяй для мяне стала нараджэнне летась сына. Цяпер не грэх і ў новае тысячагоддзе ўступаць.

2. Тое, што хачу зрабіць, за гэты тэрмін не паспею.

3. Загадваць, што будзе ў новым тысячагоддзі не буду, аднак дакладна магу сказаць толькі адно: мы пастарэем, а ў жыцці — памудрэем.

4. З рэчаў з сабою не браў бы нічога. Усё гэта справа нажыўная.

5. Сустрэну, як звычайна, у сям'і, і, думаю, гэта будзе звычайнае навагодняе мерапрыемства.

**Генадзь АЛЯКСЕЕНКА,** ***намеснік старшыні Камісіі па правах чалавека Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Беларусі:***

1. Сёння мне не сорамна сказаць, што я, перайшоўшы працаваць у Крупках з райкама партыі на пасаду дырэктара школы, лічыце, сваімі рукамі і будаваў гэтую самую школу. Бо, калі прыйшоў, там толькі адзін падмурак і быў. Так што зараз магу з чыстым сумленнем пераходзіць у новае тысячагоддзе.

2. Адназначна на гэта пытанне адказаць не магу. Напішыце, што шмат што хацелася б зрабіць, ды грошай малавата.

3. Я думаю, як цяпер, так і пасля заўсёды будуць нейкія свае цяжкасці і крызісы ў жыцці — не без гэтага. Іншая справа, што проста чалавецтва будзе больш прагрэсіўным.

4. Абавязкова ўзяў бы з сабою ў новае тысячагоддзе ўсю нашу дэпутацкую футбольную каманду і наогул усіх сваіх сяброў.

5. Пакуль не задумваўся, аднак, напэўна ж, адзначу гэтую падзею неяк своеасабліва. І, вядома, з сябрамі і з келіхам добрага шампанскага.

**Напрыканцы стагоддзя распытвалі Сяргей РАСОЛЬКА і Алесь СІВЫ.**

## УКАЗ ПРЭЗІДЭНТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ № 149

### АБ ВЫЗВАЛЕННІ Г. С. АЛЕЙНІКАВА АД ПАСАДЫ СТАРШЫНІ ПРАЎЛЕННЯ НАЦЫЯНАЛЬНАГА БАНКА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

Вызваліць Алейнікава Генадзя Станіслававіча ад пасады Старшыні Праўлення Нацыянальнага банка Рэспублікі Беларусь з наступным паведамленнем аб яго вызваленні Савету Рэспублікі Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь і залічыць яго ў рэзерв кадравага рэестра кіраўніка дзяржавы Рэспублікі Беларусь.

**Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь А. ЛУКАШЭНКА.**

20 сакавіка 1998 г., г. Мінск.

## УКАЗ ПРЭЗІДЭНТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ № 150

### АБ НАЗНАЧЭННІ П. П. ПРАКАПОВІЧА СТАРШЫНЁЙ ПРАЎЛЕННЯ НАЦЫЯНАЛЬНАГА БАНКА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

Назначыць Пракаповіча Пятра Пятровіча Старшынёй Праўлення Нацыянальнага банка Рэспублікі Беларусь з наступным узгадненнем яго назначэння з Саветам Рэспублікі Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь.

Вызваліць Пракаповіча Пятра Пятровіча ад пасады першага намесніка прэм'ер-міністра Рэспублікі Беларусь, пакінуўшы яго ў саставе Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь.

**Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь А. ЛУКАШЭНКА.**

20 сакавіка 1998 года., г. Мінск.

## КУРСЫ АБМЕНУ НАЯЎНЫХ ВАЛЮТ У КАМЕРЦЫЙНЫХ БАНКАХ І АФІЦЫЙНЫ КУРС, УСТАНОЎЛЕНЫ НАЦЫЯНАЛЬНЫМ БАНКАМ НА 20 САКАВІКА 1998 г. (па стану на 15.00)

| Назва банка | USD | | DM | | RUR | | Тэлефон для даведак |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Купля | Продаж | Купля | Продаж | Купля | Продаж | |
| Мінск (0-17) | | | | | | | |
| Абсалютбанк | 40000 | 42000 | 21800 | 22900 | 6500 | 6900 | 263-6080 |
| Белзнешэканомбанк | 41000 | 42000 | 22400 | 24950 | 6740 | 6900 | 226-7022 |
| Нацыянальны банк РБ (курс для безнаяўных разлікаў) | 33430.00 | | 18236.87 | | 5500.00 | | Курс на 21.03.1998 |
| Цэнтрабанк Расіі | 6.0960 | | 3.3279 | | 10000 BLR 1.1381 | | |
| пазабіржавы міжбанкаўскі курс | 52800 | 53800 | 28829 | 29390 | 8683 | 8852 | |

*На працягу дня ўстаноўленыя курсы могуць мяняцца, курсы галаўнога ўпраўлення банка могуць неістотна адрозніваца ад курсаў, устаноўленых у абменных пунктах. Інфармацыя атрымана ад галаўных упраўленняў негандлёвых аперацый адпаведных банкаў.*

**Агенцтва ГРАЎЦОВА.**

## СПРАВА «КРУТОГА»

Падобна, у Мінску ў сеткі сталічнай міліцыі трапіў круты прадпрымальнік, які на працягу апошніх трох гадоў скупляў і перапрадаваў кватэры. Ад сваёй дзейнасці ён атрымаў 73 тысячы долараў чыстага даходу. Па выніках праведзенага вобыску па месцы жыхарства, а таксама пры выманні індывідуальнай ячэйкі дэпазітарнага сховішча ў яго было канфіскавана 176 тысяч долараў, 28 тысяч нямецкіх марак, 48 тысяч расійскіх рублёў да дэнамінацыі і 166 тысяч рублёў старога ўзору Расійскай Федэрацыі. Усе грошы былі здабыты незаконным шляхам.

**Васіль НІКАЛАЕЎ.**

# У кожнай нашай сям'і плачуць малыя дзеці Хатыні...



**22 сакавіка 1943 года — чорная старонка ў гісторыі Беларусі. Фашысты знішчылі Хатынь...**

55 гадоў у Хатыні ніхто не жыве. Дзень веснавога раўнадзенства стаў апошнім яе днём.

... На працягу многіх стагоддзяў тут жылі людзі. Вырошчвалі хлеб і будавалі хаты, кахалі, гадавалі дзяцей. Змяняліся пакаленні — жыла вёска. Пакуль не настала тая сакавіцкая раніца Вялікай Айчыннай. Фашысты сагналі ўсіх жыхароў Хатыні ў хлеў і падпалілі. У вогнішчы загінула 149 чалавек, з іх амаль палова — дзеці... Расправіўшыся з жыхарамі, фашысты разрабавалі і спалілі ўсе хаты. Вёска ператварылася ў папялішча. Толькі пячныя каміны нагадвалі, што тут яшчэ нядаўна жылі людзі...

На месцах, дзе калісьці стаялі 26 хат, зараз узвышаюцца 26 стэл і столькі ж «зрубаў» з бетону. Стэлы нагадваюць пячныя каміны. Але не цёплы пах жылля, а вечны жалобны перазвон нясуць яны...

Лёс Хатыні падзялілі 619 беларускіх вёсак, якія былі знішчаны фашыстамі разам з жыхарамі. 186 вёсак так і не аднавіліся пасля вайны. Прывезеная адтуль зямля і попел — на Могілках загінуўшых вёсак у Хатыні. А камяні для «Сцяны Памяці» — з 260 канцэнтрацыйных лагераў і гета, створаных фашыстамі на беларускай зямлі.

Знішчаная вёска стала помнікам ахвярам фашызму ў Беларусі. Помнікам загінуўшым у полымі вайны людзям — і помнікам сцёртых акупантамі з твару зямлі вёсак.

А як успрымаюцца падзеі 55-гадовай даўнасці зараз, з вышыні часу? Пра гэта я гутарыла з навучэнцамі ліцэя пры Белдзяржуніверсітэце.

Паліна Навіцкая: «Першы раз я была ў Хатыні разам са сваім класам, гадоў восем таму. Першае, што ўспамінаецца з той паездкі, — не помнікі і не званы, а шэрае самотнае неба і дробны, як слёзы, дождж. Здаецца, мінула столькі часу, а зямля дыхае тым жа болем. Было жудасна, калі экскурсавод расказвала пра плач і крыкі, што даносіліся з палаючага хлява... Зараз усё радзей арганізоўваюцца паездкі ў Хатынь. Вайна адыходзіць у мінулае, пра яе забываюць. Мне здаецца, гэта няправільна, людзі павінны ведаць, да чаго прыводзяць фашызм, нацызм.»

Дзіна Барысовіч: «Хатынь — самая вядомая вёска ў Беларусі. Вёска-помнік... Гэта напамін: нельга забываць, што такое вайна».

Наста Казубоўская: «Я ніколі не была ў Хатыні, але не таму, што не хацела, а неяк не атрымлівалася (за што мне вельмі сорамна). Для мяне Хатынь — гэта боль, як бы ні банальна гучалі гэтыя словы. Боль за пакуты безабаронных людзей, якіх спальваюць жывымі. І нянавісць да людзей (хіба можна іх так назваць?!), якія ўчынілі гэтае злачынства. Адразу ўспамінаюцца іншыя вёскі, дзе былі ўчынены падобныя зладзействы... Гаварыць аб адной толькі Хатыні нельга: гэта адзін з прыкладаў нечалавечай жорсткасці фашыстаў. Нельга забываць, колькі было знішчана яўрэяў... Мой дзядуля і зараз успамінае, як у канцлагеры даводзілася есці конскае мяса, скураныя рамяні...»

Гэта меркаванне 16-гадовых. Гутарыла я і з людзьмі сталымі.

Ніна Шлойда, хатняя гаспадыня: «Мінулым летам усёй сям'ёй мы ездзілі ў Хатынь. Я была там упершыню. Сапраўды святое месца... Маёй дачцэ Аляксандры 4 гады, яна яшчэ мала што разумее, але крыху падрасце — і я абавязкова раскажу ёй пра вайну. І мы абавязкова з'ездзім у Хатынь яшчэ раз. Кожны павінен пабываць там і адчуць мінулае — кожны сам для сябе».

Мікалай Шыдлоўскі, пенсіянер: «Моладзь, здаецца, мала думае пра вайну. Свет зараз стаў вельмі жорсткім... Калі б часцей успаміналі мінулае, былі б дабрэйшымі».

Уладзімір Цахоўскі, прадпрымальнік: «Вы мне пакажыце чалавека, які б сказаў, што фашызм — гэта нармальна!.. Хаця, канешне, апошнім часам розныя хвалі ўзнімаюцца, асабліва ў Прыбалтыцы... А ўсё ад таго, што людзі пачалі забываць трагедыю вайны».

Аксана Гвардзіян, настаўніца сярэдняй школы № 110 г. Мінска: «Я з'яўляюся класным кіраўніком у 8-м класе. З вучнямі часта гутарым пра вайну. Дамовіліся, што на канікулах усім класам з'ездзім у Хатынь, — але не на экскурсійным аўтобусе, а на маршрутным. Каб самі прайшлі па сцежках, якія памятаюць трагедыю. Каб лепш яе адчулі...»

Яшчэ ў 20-я гады на пытанне, калі пачнецца другая сусветная вайна, нямецкі філосаф Освальд Шпенглер адказаў, што гэта адбудзецца ў канцы 30-х. І растлумачыў: у жыццё ўступіць новае пакаленне, якое нарадзілася пасля заканчэння першай сусветнай вайны і якое не зведала яе жахаў.

Як гэта важна — памятаць. Не згубіць памяць. І не здрадзіць памяці.

**Таццяна ПАДАЛЯК.**
**Фота Яўгена ПЯСЕЦКАГА.**

# КРАСА І СІЛА



## АНТАЛОГІЯ БЕЛАРУСКАЙ ПАЭЗІІ



**Уладзімір Караткевіч,** 1970 г.
**Фота М. АМЕЛЬЧАНКІ** *(друкуецца ўпершыню).*

Заўтра, 22 сакавіка, — прыкры, сумны дзень у нашай гісторыі. 134 гады таму прынародна на Лукішкаўскім пляцы ў Вільні быў павешаны адзін з кіраўнікоў паўстання 1863 г. супраць царскага панавання ў Беларусі, Літве і Польшчы Кастусь Каліноўскі. Быў загублены не толькі рэвалюцыянер, але і паэт. У апошнія хвіліны свайго кароткага жыцця ён загаварыў са сваімі суайчыннікамі паэтычным словам, пакінуўшы пасля сябе адзіны вершаваны твор «Марыська чарнаброва, галубка мая!..», бадай, самы яркі ўзор грамадзянскай лірыкі ў нашай паэзіі мінулага стагоддзя. Так, была рэальная Марыська — Марыя Грэгатовіч, дачка гаспадыні адной з кватэр у Вільні, дзе нелегальна жыў Каліноўскі, але гэта імя таксама было метафарай Радзімы.

У кожнага народа ёсць свой нацыянальны герой. Яго памятаюць, яго шануюць. Амаль што ніводны творца ў нашым мастацтве не абмінуў асобу Кастуся Каліноўскага. Што ж датычыцца паэтычнага слова, дык тут нельга не захапляцца драматычнай паэмай Аркадзя Куляшова «Хамуціус». Але ж ніхто яшчэ так не напісаў, ды, мабыць, і не напіша пра Вітажэнца (лац. Vita — жыццё; пажэнены з жыццём), як Уладзімір Караткевіч у, на жаль, няскончаным рамане «Каласы пад сярпом тваім». Караткевіч усё сваё свядомае жыццё раўняўся на Каліноўскага. Вышэйшага аўтарытэту для творцы не існавала.

Вобраз дзяўчыны-нявесты, дзяўчыны-Радзімы, атрыманы ў спадчыну ад Кастуся, стаўся ці не галоўным у творчасці нашага сучасніка. Высакародны вобраз, які патрабаваў, патрабуе і будзе патрабаваць самаахвярнасці лепшых сыноў Зямлі пад белымі крыламі.

***Уладзімір КАРАТКЕВІЧ***

## *Нявесце Каліноўскага*

*Недзе поруч ляжалі дарогі,*
*Кліч кахання ляцеў ад ніў...*
*Але ён не кахаў нікога,*
*Бо занадта радзіму любіў.*
*Варты лепшага ў свеце кахання,*
*Рана скончыўшы мужны палёт,*
*Русы хлопец золкім світаннем*
*На высокі ўзышоў эшафот.*
*Плач людскі барабаны крыюць,*
*І ад пошчаку глухне зямля.*
*На высокую гордую шыю*
*Успаўзае змяёю пятля.*
*З плачам жоравы пралятаюць.*
*Курганы і магільны жвір,*
*Непалітая ніва святая,*
*Плач жанчын, эшафот і Сібір.*
*Нікні гожаю галавою,*
*Па нязнанай страце ўздыхай.*
*Дарагая, ты стала ўдавою,*
*Не пабачыўшы жаніха.*
*Вашы кветкі ў лугах завялі,*
*Месяц марна згарэў над ракой,*
*Ты чакала яго, а стала*
*І нявестай і жонкай чужой.*
*І чамусьці ў сэрцы, як рану,*
*Я нясу твой нязбытны лёс,*
*Не даруючы ўсім тыранам*
*Непралітых табою слёз.*

12 лютага 1962 г.

**Анталогію вядзе Анатоль СЫС.**



# КАЛІ ДРЭВЫ БЫЛІ МАЛЫМІ...

**Чалавечая памяць здольная і праз дзесяцігоддзі захоўваць да самых нязначных дробязяў падзеі мінулага, тым больш калі яны звязаны з выратаваннем. Такія ўспаміны — як своеасаблівы генетычны код, магчыма, адзіны сапраўдны стрыжань людскога існавання: ратуючы адну душу — ратуеш увесь свет... Спазнаўшага гэтую ісціну завуць праведнікам.**





Сям'я каваля Залмана Кагана да вайны жыла ў невялікай вёсачцы Забалоцце, а Завадскія — у суседняй вёсцы Ключы. Абедзве сям'і працавалі ў адным калгасе, ведалі адна адну.

У верасні 1941 года фашысты вывезлі сям'ю Каган у гета ў Рагачове і аб іх лёсе доўгі час нічога не было вядома.

20 сакавіка 1942 года ў дом да Ефрасінні Завадскай прыбег Рыгор Каган і расказаў, што яго сям'ю немцы расстралялі разам з іншымі трымастамі яўрэямі гета. Хлопчыку цудам удалося збегчы і ён вырашыў шукаць выратавання ў сям'і Ефрасінні...

Сухія радкі афіцыйнай паперы не могуць перадаць таго драматызму падзей, што давялося перажыць больш за сорак гадоў таму Ефрасінні Самуілаўне. Прыгадваючы тыя дні, яна вельмі хвалюецца і ціха плача.

— Я хавала яго, колькі было магчыма. У мяне былі маленькія дзеткі, а паліцаі ўжо шукалі хлопчыка, паабяцаўшы расстраляць любога, хто дасць яму прытулак. 22 сакавіка 1942 года я правяла яго да Сенажатак і параіла ісці ў Жлобінскі раён, выдаючы сябе за выхаванца прытулку. Памалілася Богу, і мы развіталася...

Магчыма, дзякуючы малітвам беларускай жанчыны яўрэйскі хлопчык застаўся ў жывых. Але аб гэтым яна даведалася ўжо пасля вайны.

— Зараз ён з сям'ёй жыве ў Кіраўску; запрашалі мяне жыць да сябе, давалі пакой, але я адмовілася. Ездзім адзін да аднаго гасціць, — расказвае Ефрасіння Самуілаўна.

Зусім нядаўна ёй было прысуджана ганаровае званне «Праведнік народаў свету». Праўда, медаль і ганаровую грамату ездзіў атрымліваць у Гомель яе сын, у якога ў пасёлку Лукскі яна звычайна праводзіць зіму, прыязджаючы са сваіх Ключоў. Зрэшты, у свае 84 гады Ефрасіння Самуілаўна адчувае сябе няблага. Як расказалі яе хатнія, з нецярпеннем кожны дзень чакае паштальёна са свежымі газетамі, у тым ліку і «Звяздой». З вялікай цікавасцю чытае кнігі аб Іерусаліме, якія разам з медалём перадалі Ефрасінні Самуілаўне. Словам, трымаецца. Магчыма, тымі ж малітвамі, якія ўжо аднойчы дапамаглі маленькаму яўрэйскаму хлопчыку...

**Сяргей РАСОЛЬКА.**
**Фота Яўгена ПЯСЕЦКАГА.**



**Генадзю Пашкову, паэту і публіцысту, а па пасадзе яшчэ і галоўнаму рэдактару выдавецтва «Беларуская энцыклапедыя» імя Петруся Броўкі, — спаўняецца 50 гадоў. Віншуючы вядомага беларускага літаратара, мы прапануем увазе чытачоў урывак з яго аповесці.**

**ПРЭЗІДЭНТ ПАВІНШАВАЎ ГЕНАДЗЯ ПАШКОВА**

«У народзе Вас ведаюць як выдатнага паэта-рамантыка, чыё ўзвышанае лірычнае слова, увасобленае ў дзесятках цудоўных кніг, унесла важкі ўклад у дасягненні сучаснай беларускай літаратуры», — так гаворыцца ў прывітанні прэзідэнта нашай краіны Аляксандра Лукашэнкі, якое ён накіраваў галоўнаму рэдактару Беларускай энцыклапедыі Генадзю Пашкову з нагоды яго 50-годдзя.

Кіраўнік дзяржавы выказаў захапленне мужнай і сумленнай грамадзянскай пазіцыяй юбіляра, які добрасумленна стварае летапіс нашага няпростага часу, пакідае нашчадкам праўду аб тых падзеях і з'явах, што адбываюцца ў Беларусі.

Адзначыўшы прываблівыя чалавечыя якасці Генадзя Пашкова — сціпласць, спагадлівасць да чужой бяды, любоў «да роднай старонкі», прэзідэнт пажадаў яму творчых поспехаў, паэтычнага натхнення, моцнага здароўя, шчасця і дабрабыту.

***Генадзь ПАШКОЎ***

# СВЯТЛО ПРЫГАРЫННЯ

**(Урывак з дакументальнай аповесці)**

**...З'ЕХАЎШЫ З ШАСЕЙКІ**, мо, з паўгадзіны калясілі блытанымі лугавымі дарогамі, што пратапталі грузавікі ды трактары, звозячы сена. Нарэшце знайшлі лацвейшае месца — узгорачак, просты алешнік, някепскі спуск да вады. І ветрык скразны прадзімае, будзе зносіць камароў ад палатак.

Наш дарожны рыштунак даставіў сюды з Мінска «Масквіч-абцасік», а вандроўнікаў падвёз калега Лявона Кірэя. Саша — так звалі хлопца, нягледзячы на далёкую дарогу і на нашы ўгаворы застацца нанач, вырашыў адразу ж вяртацца ў Мінск, адно спаласнецца ў рацэ ды перакусіць з дарогі ў дарогу.

Саша спусціўся з абрыва, з разгону нырнуў у ваду. Выскачыў, як апараны, увесь ў шэразялёным глеі.

— Ну раку выбралі! — гукнуў разгублена, зграбаючы даланёй ліпучую гразюку. — Не дно, а багна нейкая!

Стоячы на беразе, хлопец змыў гразь, намачыў галаву і без асаблівай асалоды падняўся на абрыў.

Тым часам настрой Сашы перадаўся боцману:

— Увесь дзень газавалі, каб у гразь залезці... — бурчыць Ткацэвіч. Ён стаіць на каленях перад разасланай цыратай і наразае шырокія лусты хлеба.

Папраўдзе кажучы і мне не вельмі весела стала: зусім не такой уяўляў Гарынь. Аднаго Кірэя нішто не кранула: у яго каля любой лужыны паплаўкі ў вачах стаяць.

— Ты, Паўлік, не мух лаві, а хутчэй сілкуйся, ды снасці разбірай! — загадвае сыну. — Закінем у тую старыцу. Бач, як хлюпае!

Гляджу, куды паказвае рука апантанага Кірэя. У зарасніках кучаравага вербалозу, у прасвеце паміж двума стагамі блішчыць паласа вады. Час ад часу там сапраўды нешта хлюпае. Ды вось ужо рыбіна ботнула, ажно зарабацінела паласа.

Лявон не даеў сваёй лусты.

— Ты, ты і ты! — пачаў тыцкаць ён пальцам у мяне, боцмана і нашага новага кока Альберта. — Стаўляйце палаткі! Прасістэматызуйце рэчы! Дроў нацягайце! І ўсё астатняе... А мы з Паўлам на юшку настараемся, — распарадзіўся гэтак і, прыкрыкваючы на сына, каб шпарчэй «клешнямі варушыў», пашыбаваў з падскокам да вечаровай старыцы загульную рыбку абхітрыць. Нам цікава падзівіцца, аднак нанач трэба рыхтавацца, каб пасля з чаднай галавешкай не шукаць, дзе што ляжыць. Сказана ж — «прасістэматызаваць» рэчы! Але летняя ноч не такая ўжо хуткая, нават у жніўні. Таму перш вырашылі залезці ў вадзіцу, прывітаць раку, а заадно больш дакладна даследаваць дно. Мо, не ўсё такое гразкае?

Але ж і праўда — глею ледзь не па плечы. Асабліва ля берагоў. А яшчэ процьма вострага ракушачніку. Пабоўталіся ў плыннай каламуці ды на бераг павылазілі. Як і Саша, ногі абмывалі на пясочку, чэрпаючы ваду казанком. Вось такое адбылося першае купанне на славутай Гарыні ў Столінскім раёне.

Калі падрыхтаваліся да начлегу, мы таксама пакіравалі да азярыны, дзе зніклі ў кустах Лявон і Паўлік. Гаспадарлівы боцман прыхапіў з сабой вядро, каб рыбу назад несці.

Сонца тым часам скацілася за парослы кустоўем пагорак. Скошаная трава на сенажаці павільгатнела ад расы і ўжо не так калола босыя ногі.

Прадраліся скрозь кустоўе да вады і бачым: сядзяць у крапіве нашы рыбакі, утаропіўшы вочы на паплаўкі. А вада вакол і праўда плюскае ды раскаціста крумкае. Боцман ажно прысеў ад рогату:

— Французскі далікатэс на вячэру нам ловяць. Жабіны кумпячкі, падсмажаныя на крушынавым ражне!

...Раніцай папрачыналіся позна. Паветра, настоенае на падвялых зёлках, паспрыяла моцнаму, здароваму сну. Падымаюся, аглядаю ранішнія берагі. Па той бок Гарыні пасуцца каровы. Усе рабыя, пародзістыя. Як качыны вывадак пад лазовым кустом. Крыху воддаль ад статка, бліжэй да вады, у брызянтовіку да зямлі, ходзіць пастух. Доўгае пугаўё ў руках, як стрэльба ў пятроўскага стральца.

— Чаму рыбу не вудзіце? — гукае праз раку Ткацэвіч.

— Ні халеры няма! — кажа пастух. Ён папраўляе накідку на плячах, маршыруе далей. За ім перабірае кароткімі ножкамі кудлатае сабачанё, выробляе петлі, абнюхвае кратавішчы.

Пахадзіўшы ўсцяж ракі, паглядзелі вакол, прыкінулі, у карту зазірнулі ды прыйшлі да аднназначнай высновы — асабліва затрымлівацца не варта: ні краявідаў цікавых, ні вёсак паблізу, адны голыя берагі ды сенажаць, пабітая дарогамі. Гэты ўчастак шляху рашылі прайсці паскораным тэмпам. Значыць, на колах. Тым больш, трэба затрымацца ў Століне.

Альберт, боцман і я паедзем на «Масквічу-абцасіку», прыхапіўшы рэчы. Лявон жа з Паўлікам павяслуюць ракой. Пакуль яны будуць ісці тыя два-тры дзесяткі кіламетраў ракой, мы зробім усе свае справы ў Століне, пазнаёмімся з самым паўднёвым гарадком Беларусі.

Сустрэцца дамаўляемся каля калгаснага парому — акурат ён на карце пазначаны.

Але ж і цікава ехаць будзем! Альберт, вядома, за рулём. Побач з ім можа прыладзіцца толькі адзін чалавек. Другому выпадае месцічца ў цёмнай будцы, да адказу ўпакаванай рэчамі, розным рыбацкім ды кухонным рыштункам. Дамаўляемся з боцманам, што ў той душагубцы будзем адседжвацца па чарзе. Я згадзіўся палезці першым. Але, засунуўшы галаву ў «абцасік», адкуль напалены сонцам метал дыхнуў у твар жароўняй, схітраваў. Кажу:

— Вы пакуль усё тут за сабой прыбераце, колы падпампуеце, пайду да шасейкі пешшу. А там падбераце.

Вольна ісці лугавой дарогай насустрач цёпламу ветру. Нібы на крылах ляціш услед за бусламі. Так і хочацца заспяваць на ўсё горла, як спяваюць тут лугавыя насельнікі, кожны сваім голасам — адзін свішча, другі крумкае, трэці клякоча. І ўсё гэта плыве з азярыны, з чароту, з крушынага куста, з высокай бусьлянкі, зліваецца ў адну дзіўную мелодыю. Ці ж не сімфонія жыцця? І так было адвеку. І, хочацца спадзявацца, будзе заўсёды, пакуль свеціць над галавой высокае свяціла. Пакуль з глыбокіх зямных крыніц нясуць жыватворныя воды рэкі.

Арыенцір бяру на высокі мост. Учора мы з яго з'язджалі да ракі. Ён яшчэ далёка, ісці ды ісці да яго. А дарогі — і налева, і направа, і ўпоперак, і ўздоўж! Паспрабуй здагадайся, на якую ступіць!..

Ля старыцы пераняў сабака. Ну, не вельмі каб ваўкадаў, так сабе, падсабачанё. Але едкі! З лямантам пакаціўся пад ногі.

З кустоў нехта падаў голас:

— Лайна!..

Падахвочанае сабачанё ажно завілося ля мяне, заліваючыся брэхам. Тады з кустоў высунулася галава і ўжо настойлівей загадала:

— Каму кажу, воўча мяса?!

Істота ўмомант сціхла, патрусіла да гаспадара, падлізліва віляючы хвастом. Тады я спытаў:

— Ці правільна іду да маста?

— Ідзі прама гэтай дарогай і нікуды не зварочвай, — кажа дзядзька, а сам глядзіць кудысьці праз мяне, у той бок, дзе збіўся ў кучу гурт авечак, ратуючыся ад спёкі. Гэтак цень сабе робяць. А кажуць — дурны як авечка!

Ледзь прайшоў метраў сто, дарога адразу раздвоілася. І ніводнай прама! Ступаю на тую, куды ногі самі збочваюць. Ды вельмі ўжо крута бярэ яна ўбок. Нават мост за спінай апынуўся. І тут яшчэ адна дарога выбегла. Ступаю на яе. І яна таксама пачынае нечага кружыць. Тады ступаю ў траву, іду іншай дарогі шукаць. Ды вось ліха, шлях перагароджвае старыца. Ступіш туды, пойдзеш сюды і выходзіць — трапіш у пастку. Мабыць, балацяны нячысцік водзіць?

Перад гэтай вандроўкай я перачытаў некалькі старых выданняў пра Палессе і прыйшоў да высновы, што гэты край здаўна цікавіў і вабіў дапытлівы розум многіх падарожнікаў, даследчыкаў матэрыяльнай і духоўнай культуры аднаго са старажытных славянскіх народаў. У шэрагу такіх кніг быў трэці том папулярнага шматтомнага выдання «Жывапісная Расія», якое выйшла ў перыяд з 1881 па 1901 гады. Яго задумаў і ажыццявіў буйнейшы рускі географ і падарожнік Пётр Сямёнаў-Цян-Шанскі. Згаданы трэці том выдання «Літоўскае Палессе» і «Беларускае Палессе» прысвечаны апісанню гісторыі і прыроды літоўскіх і беларускіх зямель, культуры людзей, якія жылі на гэтых землях. Кніга яшчэ ўяўляе каштоўнасць і тым, што большасць нарысаў тома напісаў вядомы беларускі гісторык і этнограф Адам Карлавіч Кіркор.

У лабірынце блытаных дарог і сцяжынак між кустоўя, азярынаў і старыц прыгадаліся радкі: «У глыбіні лясоў, далёка ад чалавечага жытла трапляюцца вялікія азёры, вядомыя мала каму з тутэйшых. Доступ да іх магчымы толькі ў пару гарачага лета, або ў вялікія маразы. Але некаторыя з азёраў амаль ніколі не замярзаюць і на іх усю зіму свабодна плаваюць чароды дзікіх гусей і качак, знаходзячы шчодрую пажыву з дробнай рыбы і асабліва з ментузоў. Яны жыруюць да такой ступені, што амаль губляюць здольнасць лётаць, і мясцовыя паляўнічыя, калі ёсць неабходнасць дабрацца да возера, забіваюць іх цэлымі чародамі». І яшчэ ў дадатак да таго апісання: «У гэтыя азёры сцякаюцца сотні ручаін і невялікіх рэчак, мноства якіх праразаюцца па ўсіх накірунках даліны Прыпяці. Але ёсць і такія азёры, да якіх доступ зусім немагчымы ні ў якую пару года.

Яшчэ зусім нядаўна бясклапотна і амаль у поўнай бяспецы жылі тут, у вузкіх рэчках, у вялікай колькасці бабры і выдры... Як у цэлым Беларускім Палессі, так і асабліва ў даліне Прыпяці, лясы складаюць галоўнае багацце краю. У лясах гаспадары, па мясцоваму выказванню, гоняць дзёгаць, смалу, выпрацоўваюць паташ, будаўнічыя брусы, дошкі, дранку, гонку, клюпкі, нават мачты для караблёў. Зімою гнуць палазы, дугі, абады, восі, аглоблі і г. д. Усе гэтыя прадметы на мясцовых суднах адпраўляюць у Данчыц, у Кёнігсберг, у Крамянчуг і іншыя мясціны, адтуль у замен атрымліваюць соль ды іншыя прадметы».

...Між тым, мінула нямала часу, а я ўсё кручу петлі, абыходзячы азярыны і старыцы. Кожны крок наперад вымагае сотню крокаў убок.

Нарэшце выцерабіўся з кустоў на насып. Мокры і стомлены, стаю на гарачым асфальце, шукаю вачыма «Масквіча». Ён жа павінен даўно быць тут. Але ні «Масквіча» ля маста, ні Кірэяў на вадзе пад мастом не бачна. Быць не можа, каб кінулі аднаго!

Праз паўгадзіны вуха ловіць натужнае вуркатанне. Як зялёная жаба, падскоквае на калдобінах «абцасік», прабіраецца да асфальту. Хлопцы, выявілася, таксама паблудзілі, але, не ў прыклад мне, з дарогі не з'язджалі.

Ахвотна лезу ў «пекла». Цяпер у ім гарачэй, чым тады, ля ракі. Ушчаміўся між клункаў, за мной зачынілі дзверы на замок. «Абцасік» тузануўся, пакаціўся сабе роўнай дарогай, а я ў поўнай цемрадзі пачаў пакорліва прымаць усе дарункі цывілізаванага пекла.

Да нітачкі прамоклы ад нясцерпнай гарачыні, трываў і цярпеў, цешачы сябе тым, што і таўсматаму боцману давядзецца тут пасмажыцца. То не дужа пасля будзе язык распускаць, строячы кепікі.

У задушанай паўдрымоце я не пачуў, як легкавік спыніўся. Апрытомнеў, калі ўдарыла па вачах паласа святла і амаль праспяваў боцмана голас:

— Генадзь! Ты жывы?

Адліхваю з сябе цяжкі мяшок з правіянтам, што ў дарозе добра прыдушыў, ды выкульваюся з будкі.

— Вось дык лазня! — спагадае далікатны да чужога гора Альберт.

— То я цяпер палезу, — без асаблівай ахвоты абвяшчае Ткацэвіч.

— Лезь, лезь! — кажу. — Мо кілаграмаў пяць скінеш!

Так мы даехалі да Століна. На ціхай вуліцы пакінулі пад акацыямі аўтамабіль, пакіравалі ў цэнтр — з гарадком знаёміцца.

Столін шмат чым падобны на раённыя гарадкі заходняга Палесся. Хіба што мова своеасаблівая. Тут можна наслухацца такіх слоў, якіх нідзе ў іншых мясцінах не пачуеш: не адзін век старанна перамешваў карэнную беларускую мову з рускай, украінскай, польскай мовамі. Тут як бы і людзі знешнім абліччам вылзяляюцца. Ва ўсякім разе, боцман зазначыў, што конкурс на лепшую прыгажуню ў Століне праводзіць нельга, бо ўсе дзяўчаты надзвычай прыгожыя. Такое меркаванне ён выказаў услых, калі збочылі ў стары гарадскі парк і праходзілі міма маладзенькіх красунь. Яны смакавалі марожанае, ратуючыся ад спёкі ў засені дрэў. Пекныя паляшучкі глянулі чыстымі вачыма на памятых незнаёмцаў, пырснулі звонкім смехам.

— Дробязь, а людзям прыемна! — сам сябе пахваліў боцман.

А між тым, столінскі парк таксама не зусім звычайная з'ява. Вялікі, абнесены багатай, з літага чыгуну, агароджай. Такія агароджы сустрэнеш хіба што ў значных, з багатай гісторыяй гарадах.

...У глыбіню парка вядзе брукаванка. Камяні пад нагой роўныя, гладкія, падагнаныя адзін пад адзін. Ісці такой дарогай — не шморгаць падэшвамі аб асфальт! Брукаванка — гэта заўсёды момант урачыстасці! Між тым дарога вывела да будыніны. Шыльда пасведчыла, што тут Столінскі краязнаўчы музей. Там і даведаліся мы, што гэты парк ў 1885 годзе залажыла Марыя Радзівіл. А на пачатку гэтага стагоддзя яе сын Станіслаў будаваў тут маёнтак. Ад таго маёнтка цяпер і следу не засталося. Пра ўсё гэта нам расказвала Анжэла Кісель — прыгожая, усмешлівая дзяўчына.

Здзівілі не рэшткі мамантa, што знайшлі на Століншчыне, не вялізны шчупачына з Гарыні, які больш нагадвае трапічнага кракадзіла. Найперш уразілі вырабы народных умельцаў Прыгарыння. Мастакі, ткачы, ганчары, разьбяры — вунь колькі майстроў старажытных народных промыслаў данеслі мастацтва да сённяшніх дзён, удасканальваюць, развіваюць яго, цеплячы ў душы загадкавую Божую іскру. Дасканаласць і сакрэты ўмельства перадаюцца тут з пакалення ў пакаленне. Многія дзівосныя рэчы ад звычайнага бытавога ўжытку зрабіліся сёння сімвалам духоўнасці палешукоў. Іх выраб цяпер не носіць чыста практычнага характару, гэта хутчэй шлях захавання памяці, здольнасць падзівіць свет, што і тут людзі не лыкам шытыя, хоць з таго самага лыка могуць сплесці такое, што не сорамна паказаць у самых шыкоўных салонах.

Усяму багаццю, што выйшла з-пад рук народных умельцаў Прыгарыння з цягам часу зрабілася цесна ў краязнаўчым музеі. Тады арганізавалі новы музей і адпаведна назвалі — Дом палескай культуры.

Анжэла Кісель апавядае пра сваю Століншчыну па-маладому натхнёна, з трапяткой радасцю, як можа дзяліцца чалавек самым для яго дарагім...

***ПРЭМ'ЕРА ПЕСНІ***

# НЕЧАКАНАЯ

**Музыка, як і любоў, завітвае нечакана: то наляціць імклівым ветрам — і адгукнецца ў душы мілагучным пералівам, то зазвініць, адбіваючыся ў сонечных промнях, летнім дажджом. І ўскалыхнуцца пачуцці, устрывожацца... Толькі б не прапусціць трапяткое імгненне, хутчэй запісаць народжаную мелодыю, суаднесці яе з душэўнымі перажываннямі.**

У такім стане Васіль Кандрасюк напісаў не адзін твор. Звычайна даводзіцца шукаць адпаведныя музычныя сродкі на зададзеную тэму. Кампазітар працуе ў Брэсцкім драмтэатры, стварае музыку да спектакляў. Але бываюць хвіліны, калі музыка сама апаноўвае яго, вырывае з буднічных рытмаў, засланяе ад гарадскога шуму. І тады нараджаецца песня.

Летась гэткаю парою Васіль Кандрасюк занатаваў дзве мелодыі. Выспявалі песні ў народным стылі. Тэксты на падказаныя кампазітарам тэмы напісаў малады драматург з Кобрына Ігар Сідарук. Адну з песняў — з арыгінальнай назвай «Нечаканая» — на пачатку 1998 года спецыяльна для перадачы «Прэм'ера песні» запісалі на Беларускім тэлебачанні.

Заўтра, 22 сакавіка, адбудзецца прэм'ера «Нечаканай». У выкананні брэсцкага спевака Аляксандра Шукайлы яна прагучыць у радыёперадачы «Песня для вас» (9.45) і тэлеперадачы «Прэм'ера песні» (00.05).

**Міхась ШАВЫРКІН.**

1. Ты ка- ха- на- я, не- ча- ка- на- я. Я су-
стрэў ця- бе ля бя- роз. Ты мір- гну- ла мне: "Хло- пец,
ўсе мі- не. Я не вар- та- я тва- іх слёз." А я
рум- за- ю, ву- са ту- за- ю. Без ця- бе пам- ру, да- лі-

**Верш Ігара СІДАРУКА** — **Музыка Васіля КАНДРАСЮКА**

*Ты каханая, нечаканая,*
*Я сустрэў цябе ля бяроз...*
*Ты міргнула мне: «Хлопец, ўсё міне,*
*Я не вартая тваіх слёз».*
*А я румзаю, вуса тузаю:*
*Без цябе памру, далібог!*
*Увесь свет прайду, а цябе знайду,*
*Буду цалаваць твой парог!*

**Прыпеў:**
Ты, бярозка, сарамліва вочы апусці.
Сукенка белая у неба паляці,
Скрыйце, травы, нашы твары і люляйце нас
У імклівы і шчаслівы зорны час.
Пакахаю, пакахаю, пакахаю я.
Адшукаю, адшукаю давідна.
Заспяваю, заспяваю, заспяваю я.
Ты са мною, ты са мною — не адна.

*Я шукаў цябе, я чакаў цябе —*
*Не знайшоў, і ты не прыйшла.*
*Ах, далёкая, сэрца ёкае —*
*Недаступнаю ты была.*
*Ды прыгожанькай ручкі-ножанькі*
*Буду ў марах я мілаваць.*
*Мятай-рутаю і пакутамі*
*Буду раны я лекаваць.*

**Прыпеў.**

## СМЕХАТЭРАПІЯ

### АНЕКДОТЫ

*Маці пытае ў маленькага хлопчыка:*
*— Хочаш паглядзець на сястрычку, якую прынёс табе бусел?*
*— На сястрычку не, а вось бусел зімой — гэта цікава.*



*— Тата, памятаеш, ты некалькі гадоў таму расказваў, што цябе выгналі са школы...*
*— А чаму ты пра гэта ўспомніў?*
*— Ды так... Проста я зразумеў, чаму кажуць, што гісторыя паўтараецца.*



*Хлопчык, тата і мама едуць у машыне.*
*— Мам, глядзі, самалёт ляціць!*
*— Мам, глядзі, цягнік!*
*— Мам, глядзі... сабака!*
*— Тат, глядзі, бландзінка!*



*Сын кажа маці:*
*— Я хутка ажанюся. Нявеста добрая: не п'е, не курыць — заўтра прыйдзе.*
*На наступны дзень у госці прыходзіць нявеста. Маці пытае:*
*— Вы сапраўды не п'яце і не курыце?*
*— Так. Надакучыла.*



*Палічыўшы бюджэт на наступны год, жонка кажа мужу:*
*— Нам неабходна абмежаваць свае траты. Таму ты павінен перастаць выпіваць перад абедам, а я са свайго боку пастараюся адвучыць цябе ад курэння.*



*Муж (адказваючы па тэлефоне):*
*— Я не ведаю, патэлефануйце ў бюро надвор'я!*
*Маладая жонка:*
*— Хто гэта?*
*— Нейкі марак, напэўна. Пытае, як там на гарызонце!*




Малюнак Аркадзя САЛТЫКОВА.

### І ТАК БЫВАЕ!

Рэальная гісторыя, якую расказаў адзін хлопец:

Привозяць у траўматалагічнае аддзяленне бальніцы крыху падпіўшага мужычка з пераломамі абедзвюх рук. Мужычок пры гэтым рагоча. Ну, вядомая справа, пытаюся, што здарылася. Расказвае:

— Іду, значыцца, з працы, пятніца, выпіў крыху, спякотна. Ну, у сандаль каменьчык трапіў. Мяне крыху хістае, я на будку трансфарматарную абапёрся, нагой трасу, каменьчык стараюся вытрасці. Тут другі ідзе, таксама, відаць, з працы і таксама крыху падпіўшы. Раптам хапае драўляную палку і з крыкам: «Браток, я цябе выратую!» лупіць мне па руках. Ён, каб на яго ліха, падумаў, што мяне токам трасе.

Рубрыку вядзе Алесь СІВЫ.

РОД

# ЦЕНЬ ПАЭТА НА ЗЯМЛІ І СНЕЗЕ

Магчыма, гэты апошні снегапад быў невыпадковы. Каб даць яшчэ адну магчымасць убачыць гэты край такім, якім бачаць яго часам мастакі-графікі, — светлым, велічным. Убачыць выразныя лініі гарадскіх і вясковых ландшафтаў, непаўторныя сілуэты старажытнага дойлідства. Каб убачыць вобраз зямлі, які бачыўся Яму.

Але на белым снезе чорныя лініі занадта выразныя. І ў непаўторным аблічы Навагрудчыны (часам кажуць — Наваградчыны) мы раптам заўважаем тое, што нават снег не здольны схаваць — нашыя нядаўнія варварскія адносіны да бясцэннай сваёй культурнай спадчыны.

Зімовая графіка абвастрае пачуцці. Нават у парушаных нашым бяспамяцтвам каштоўнасцях бачацца нам не толькі цені створаных Паэтам вобразаў, але і постаць самога Адама Міцкевіча. Ён жа тут жыў, хадзіў тут, быў, бачыў, дакранаўся...

200 гадоў, якія аддзяляюць нас ад эпохі Паэта, сталі графікай часу. Толькі часам лінія лёсу народа перасякае вельмі чорнымі рысамі чыстую памяць. І любоў, якая ніколі не астывала да Паэта на гэтай зямлі.

**Анатоль КЛЯШЧУК. Фота аўтара.**



Адна з навагрудскіх вулачак.



Святыні мястэчка Уселюб.



Заснежанае возера Свіцязь.

МОДА

# НЕ АПРАНАЦЬ ЖАНЧЫНУ, А РАСПРАНАЦЬ ЯЕ...



Надыходу вясны сёлета мужчыны павінны абрадавацца не менш, чым жанчыны якім хочацца як мага хутчэй скінуць з сябе цяжкія паліто і боты. Сезон вясна—лета-98 «здымае» з жанчын не толькі вечныя атрыбуты халоднай зімы. Прадметам радасці мужчын стане абвешчаны ў гэтым сезоне на подыумах свету дэвіз — не апранаць жанчыну, а распранаць яе.

Жаночае адзенне становіцца абсалютна празрыстым, пінжакі апранаюцца прама на голае цела, а бялізна, калі яна прадугледжана, — зверху (натуральна, празрыстых блузак). Дэкальтэ ў вячэрніх сукенках становіцца больш адкрытым, адкрываецца і спіна. Шыкоўныя камбінацыі выглядваюць з-пад спадніц, а бодзі з вельмі тонкіх тканін настолькі празрыстыя, што вышыўка на іх стварае эфект татуіроўкі на целе.

Адным словам, жаноцкасць вяртаецца. І гэта тэндэнцыя надыходзячага сезона, на думку вядучых сусветных аглядальнікаў моды, становіцца вызначальнай на некалькі гадоў наперад. Калі яшчэ летась дамінуючай у модзе была кволая безабаронная дзяўчынка-сіротка, то цяпер мадэльеры ствараюць вобраз прыгажуні з будуара, крыху легкадумнай і какетлівай. А што сіротка? Яе кволасць засталася, але сама яна становіцца Лалітай. Яна таксама спакушае.

Разам з тым мода надыходзячага сезона разнастайная ў стылях і стракатая ў фарбах. Яна дае шанц праявіць індывідуальнасць. Бо менавіта ў гэты вясновалетні сезон жанчына можа насіць туфлі на высокім абцасе-«шпільцы» ці на цяжкай платформе або, што яшчэ больш арыгінальна, — абуць навінку сезона — сандалі. У модзе будзе сукенка як класічнага сілуэта (напрыклад, строгая, з каўнерыкам-«стойкай» альбо на шлейках, з высокім разрэзам збоку), так і без пэўнага сілуэта — асіметрычная, аж да таго, што ў яе будзе адзін рукаў. Калі ж вы аддаяце перавагу сукенцы з двума рукавамі, але хочацца паарыгінальнічаць, мода надыходзячага сезона прапануе наступнае.

Рукавы сукенкі ці блузы могуць поўнасцю закрываць кісці (Issey Miyake), мець разрэзы на локцях (Alexander McQueen) ці, што дазволена ў гэтым сезоне ў трыкатажных вырабах, мець даўжыню да локця. Малюнак экстрамоднай вышыўкі можа пачынацца ад пляча і заканчвацца на процілеглым рукаве. Акрамя таго, мода дазваляе нарэшце зноў фантазіраваць на тэму аксесуараў — мноства тонкіх металічных бранзалетаў, якія носяць не толькі на запясці, але і вышэй локця. Тонкія ніткі пацерак, некалькі разоў абвітыя вакол шыі. Хусцінкі, заколкі, спражкі і нават... штучныя кветкі як элемент упрыгажэння вячэрняй (і не толькі) сукенкі.

«Новым упрыгажэннем» сезона называе аўтарытэтны часопіс ELLE махры.

Сумкі ў гэтым сезоне будуць меншыя. Гэта сумка-кашалёк, сумка-канверт. Гэта проста аксесуар, які дапаўняе святочны жаночы вобраз сёлетняга вясновa-летняга сезона.

Мода працуе на ўсіх, таму нельга сказаць, што прыхільніц актыўнага ладу жыцця, а значыць і аматарак простага зручнага адзення, абышлі бокам. Актуальнымі ў жаночым гардэробе застаюцца штаны. Праўда, іх крыху падрэзалі. Зрэшты, на подыумах з'явіліся не толькі крыху ўкарочаныя штаны, але і брыджы (нават з вялікім накладнымі кішэнямі). Згодна з прагнозамі аглядальнікаў моды, у гэтым сезоне як ніколі будзе папулярная баваўняная тканіна ва ўсіх яе варыянтах.

Але ўсё роўна жаноцкасць уступае ў свае правы — найбольш моднымі становяцца бліскучыя і празрыстыя тканіны з кветкавым малюнкам, у тым ліку і набіўным ці ў яркую палоску (крояцца, як правіла, па касой).

У цэлым колерам сезона адны аглядальнікі называюць ружовы ва ўсіх яго адценнях, другія — сіні. Некаторыя з іх лічаць, што жаночы пол будзе хадзіць у ружовым, а мужчынскі — у сінім. Відавочна адно — сіняя каляровая гама была калі не дамінуючай, то адной з вядучых у сезоне восень—зіма-97-98, а ружовы прыйдзе да нас з подыумаў разам з вясной.

**Паліна КРЫЛОВА.**

## Старонка Паўла Глобы

### 22 сакавіка, НЯДЗЕЛЯ

**РЭКАМЕНДАЦЫІ.** Сёння карысныя падарожжы, прагулкі, фізічныя практыкаванні. Добры час для атрымання новых ведаў, чытання літаратуры, свяшчэнных тэкстаў, назапашвання інфармацыі. Не рэкамендуецца займацца хатнімі справамі. Не пажадана судакранацца з агнём. Ежа павінна быць лёгкай: салаты, сокі, бутэрброды.

**ПРЫМЕТЫ.** Калі пры выхадзе з дому вецер дзьме вам збоку, а таксама калі выпадкова на галаву падае ліст з дрэва — значыць вы знаходзіцеся пад абаронай нябесных сіл. Вас некалькі разоў аклікаюць па імені — да паляпшэння вашага становішча і здзяйснення жаданняў: у гэтым выпадку адразу ж загадайце жаданне. Але калі вас аклікнулі і абазналіся — да страт, цкавання, вы расплаціцеся за чужыя грахі. Знайсці грошы ці металічныя прадметы — дрэнны знак (іх лепш не падбіраць), папярэджанне аб суроках, няўдачах, страце. Самаузгаранне чаго-небудзь, выбух лямпачкі, іскры ад запаленага прадмета — знакі сурокаў. Вельмі дрэнным знакам з'яўляецца зламаны ключ, а таксама дзверы, якія выпадкова зачыніліся на замок. Дрэнна, калі ў вас ламаюцца парасон, кнопкі, маланкі, пярсцёнак (ці з яго выпадае камень) — з вас знімаецца абарона, магчымы падман з боку кагосьці з вашага акружэння. Будзьце асцярожныя ў кантактах. Калі рвецца што-небудзь у доме (фіранкі, парцьеры, абрус) — гэта азначае, што на ваш дом могуць наваліцца непрыемнасці.

**СНЫ**. Прарочыя. Бачыць дарогу, падарожжы, дрэвы — азначае дабрабыт, перамены да лепшага, здзяйсненне жаданняў. Сон, які мае працяг, абавязкова прарочы. Стрыгчы валасы, пазногці, губляць зубы, бачыць сваё змененае аблічча ў люстэрку — знак падману.

**ЕЖА**. Трэба гатаваць простую і лёгкую ежу: салаты, бутэрброды, закускі, але пажадана абмежаваць ужыванне вадкасці. Можна піць кефір і прастаквашу, але не рэкамендуецца віно. «У дзень Вохумана, каб галава твая была яснай, не апаганьвай яе спіртным».

**АДЗЕННЕ**. Добра апранацца ў новае. Рэкамендуюцца жоўтыя, блакітныя і сіне-зялёныя колеры. Пазбягайце ўсіх чырвоных, аранжавых і ліловых тонаў.

**МЕДЫЦЫНА**. Можна лячыць захворванні страўніка, вачэй, вушэй, галаўнога мозгу. Асцерагайцеся пераломаў. Беражыце пазваночнік і каленныя суставы. Звярніце ўвагу на стан крыві, печані, жоўцевага пузыра, нырак. Слабыя палавыя органы.

**Падрыхтавана да друку спецыяльна для «Звязды» астралагічным цэнтрам «АРБА».**

## КАРАНАВАННЕ ПРЫГАЖОСЦІ

**З прыходам вясны цяплей і весялей становіцца не толькі на вуліцы, але і ў нашых сэрцах і душах, бо, як і ўсё жывое, расцвітае ў гэтую пару жаночая прыгажосць. Таму невыпадкова першы нацыянальны конкурс «Міс Беларусь-98» адбыўся менавіта зараз, калі сакавіцкае сонца абуджае сілы прыроды.**

19 прыгажунь з усяе рэспублікі, атрымаўшы перамогі ў рэгіянальных турах, прыехалі ў сталіцу, каб прадэманстраваць не толькі сваю прыгажосць, але і ўменне з густам апранацца, годна трымаць сябе на сцэне — ці то ў футрах ад Фелікса Фурса, ці ніжняй бялізне «Мілавіцы», ці вячэрніх строях. Немалое значэнне мела таксама валоданне замежнай мовай і карыстанне камп'ютэрам.

Журы складалася з вядомых у рэспубліцы людзей — тут быў і балетмайстар, заслужаны дзеяч культуры В. Дудкевіч, і народны артыст Беларусі Ю. Траян, і намеснік старшыні Дзяржкамдруку З. Прыгодзіч, і начальнік упраўлення Міністэрства адукацыі Г. Бутрым, а таксама прадстаўнік мадэльнага агенцтва Славы Зайцава (Масква), мадэльных дамоў з Францыі і Германіі.

Вось гэтая кампанія і вызначыла першую прыгажуню Беларусі. Ёю стала Святлана Крук з Гродна. Яна — студэнтка першай Нацыянальнай школы прыгажосці, якая працуе ў дзяржаўным харэаграфічным каледжы. Дарэчы, стварэнне гэтай школы адбылося дзякуючы падтрымцы, якую аказаў Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка. Былі вызначаны пераможцы і ў іншых намінацыях: «Першая віцэ-міс» — Алеся Пясецкая, «Міс Зачараванне» — Юля Саенка, «Міс Фота» — Вольга Шкода.

**Вольга РАМАНЮК.**
**Фота Віт. АМІНАВА.**






## БЕЛАРУСЫ ПАКАРАЮЦЬ АМЕРЫКУ

**У свеце беларускай музыкі адбылася даволі значная падзея. У Злучаных Штатах Амерыкі знакамітая музычная фірма «Ellipsis Arts» выпусціла ў свет зборнік трох кампактаў з каляровым буклетам. А назва гэтага праекта — «Unblocked. Музыка Усходняй Еўропы».**

Наша краіна прадстаўлена двума гуртамі — «Унія» і «Ліцвіны». У падборку ўвайшлі такія песні «Ліцвінаў», як «Каліна-маліна над ярам стаяла» запісу 1996 года і «Да было ў Юр'я тры дачушкі» запісу 1993 года. І яшчэ дзве кампазіцыі былі выкананы капэлай «Унія».

На дысках песні 18 краін Усходняй Еўропы. Першы прысвечаны краінам Прыбалтыкі, Беларусі і Украіне. На другім і трэцім дысках — запісы песень Балканскага паўвострава, Грэцыі, Славакіі і г. д.

Фірма выдала таксама кароткі анатацыйны даведнік з каляровымі фотаздымкамі і геаграфічнай картай Усходняй Еўропы.

А нашы гурты застаецца толькі павіншаваць з нагоды гэтай падзеі. І пажадаць, каб беларускія аматары змаглі набыць такія ж якасныя кампакты з запісамі любімых выканаўцаў.

**Юлія ЕЛІСЕЕВА.**




### «Бальзакаўскія жанчыны» ды прыхільніцы Цівунова

Алег Цівуноў нераўнадушны да жанчын бальзакаўскага ўзросту. Пра іх ён спявае песні, ім прысвячае цэлыя канцэрты. Вось і з жаночым святам ён павіншаваў адразу многіх — спецыяльным сольным канцэртам, які называўся «Бальзакаўскай жанчыне».

Дарэчы, жанчыны адказваюць спеваку ўзаемнасцю. Прынамсі канцэртная зала «Мінск» была запоўнена публікай цалкам. Жанчыны маладыя і «бальзакаўскія» не скваліліся на кветкі і апладысменты. Дарэчы іх спадарожнікам, па большасці салідным мужчынам нічога не заставалася рабіць, як падтрымліваць адпаведную атмасферу ў зале. Бо Цівуноў прыцягваў увагу не толькі сваім голасам, але і вытанчанымі касцюмамі, якія ён мяняў на працягу канцэрта некалькі разоў.

Гаварыў мала, у асноўным песнямі, не дазваляючы паўз у канцэрце. Можна было падумаць, што спявак некуды вельмі спяшаецца. Напэўна, да любімай жанчыны...

**Ларыса ЦІМОШЫК.**

*Гасцёўня*

# Аляксандр Разенбаўм дрэнна ставіцца да дармаедскай беднасці і паважліва — да сумленна нажытага багацця

***Амаль дваццаць гадоў таму Аляксандр Разенбаўм пакінуў працу рэаніматолага на «хуткай дапамозе» і трывала заняў сваё асобнае месца на эстрадзе. Трэба прызнаць, што тэрмін у два дзесяцігоддзі на сцэне не можа не выклікаць павагі нават і ў не вельмі вялікіх прыхільнікаў песеннай і паэтычнай творчасці Аляксандра Разенбаўма, бо сённяшнія эстрадныя «зоркі» ззяюць публіцы ў сярэднім толькі чатыры-пяць гадоў.***

***Прайшоў час, і цяпер 47-гадовы Разенбаўм, які нядаўна аддаў замуж дачку, гаворыць журналістам, што стаў мудрым у сэнсе ўзросту, або сталым, калі казаць больш дакладна і больш сціпла, і ўсё, што звычайна адбываецца з нармальным чалавекам на працягу жыцця, прыйшлося зведаць і Аляксандру Якаўлевічу. Яшчэ дзесьці пяць гадоў таму, здавалася прыхільнікам Разенбаўма, змрочныя, цёмныя думкі ахапілі і душу, і творчасць спевака. Пра гэта сведчыла і адпаведная назва тагачаснага альбома — «Млявая шызафрэнія». Але зараз, настойвае Аляксандр Разенбаўм, ён ачуняў, папраўіўся і ўжо свабодна распавядае не толькі пра гэту «хваробу», але, між іншым, і пра самы звычайны метад барацьбы з ёй.***



— Я — нармальны чалавек і жыву ў свеце. Нельга не супеpражываць таму, што ў гэтым свеце адбываецца, нельга не думаць пра гэта і не гаварыць. Проста іншыя людзі абмяркоўваюць гэта паміж сабой, а мне прасцей зрабіць гэта з паперай і музычнымі інструментамі. Калі казаць вобразна, я жыву ў гэтай «псіхіятрычнай бальніцы», і на мяне ўплывае яе клімат. Іншая справа, што не так даўно я жыў «на аддзяленні», а зараз перайшоў у «ардынатарскую». Я не ўжываю алкаголю ўжо пяць гадоў, а таму мне зараз лягчэй.

**— Медыцынская тэрміналогія заўсёды прысутнічае ў вашай гаворцы. Напэўна, вам усё яшчэ сняцца па начах белыя халаты?**

— Так. І калі б не было ў маім жыцці медыцыны, не было б і песень. Ва ўсякім разе, у параўнанні з сённяшнім узроўнем яны пацягнулі б толькі на пяцьдзесят працэнтаў. Таму што медыцына ўвогуле, ды яшчэ асабліва праца рэаніматолага і асабліва на «хуткай дапамозе», перш за ўсё прадугледжвае веданне псіхалогіі людзей. Любы доктар — гэта перш за ўсё псіхатэрапеўт, яму трэба перш за ўсё ўстанавіць кантакт з чалавекам, а потым лячыць. Тое ж самае і для акцёра і спевака.

Але ўсё ж такі параўнаць музыку і медыцыну немагчыма. Паверце, што выратаванне ад смерці хаця б аднаго чалавека можна параўнаць толькі з канцэртам для 200 мільёнаў чалавек на планеце накшталт Марса...

**— Але ў рэшце рэшт вы аддалі перавагу музыцы перад працай рэаніматолага?**

— Я быў добрым доктарам, але нельга мець дзве прафесійныя справы. Фізікі-лірыкі загубілі краіну. Праўда, яны добра ўпісваліся ў 60-я гады: сядзелі ў лабараторыях і спявалі на паляне. Але ад гэтага роўна пакутавалі і лабараторыі, і эстрада, бо ў абодвух месцах не было прафесіяналаў.

Я вельмі ўдзячны лёсу, што ў маім жыцці была медыцына, ды яна і зараз ёсць, бо ў маёй сям'і сем практыкуючых урачоў. І дыплом мой таксама не страціў сваёй вартасці, я на гэты конт пытаўся ў юрыстаў. Так што, калі што здарыцца — на «хуткую дапамогу» мяне заўсёды возьмуць!

**— Ці змяняліся з цягам часу вашы адносіны да сваёй публікі?**

— Ні ў якім разе. Ведаеце, зараз ёсць вялізная колькасць людзей, якія выходзяць на сцэну і «дораць людзям сваё мастацтва». Дык вось, не трэба нікому нічога дарыць, бо людзі яго набываюць за грошы! Трэба аддаваць сваё мастацтва з павагай да публікі. Я заўсёды памятаю, што акцёр жыве для людзей і за кошт людзей — як маральна, так і матэрыяльна. Таму і стаўлюся да іх належным чынам.

**— Вам ніколі не здавалася, што вы часам ператвараецеся ва ўладара дум людзей?**

— Я нават думаць пра гэта не жадаю. Я ведаю, што мяне слухаюць многія і многія людзі. Не буду казаць пра лічбы. Я толькі імкнуся працаваць дзеля таго, каб не падвесці, не падмануць чаканні людзей, якія спадзяюцца на мяне і разлічваюць на нейкі ўзровень.

**— Ваенныя песні Разенбаўма кранаюць за душу любога чалавека. Вы спявалі калісьці ў Афганістане, не так даўно ездзілі ў Таджыкістан. Чым тлумачыцца тое асобнае месца, якое займае ваенная тэматыка ў вашай творчасці?**

— Я — дзіця свайго часу і сваёй краіны. У гэтым ёсць, канешне, і адмоўныя бакі, якія хацелася б разам з грамадствам вынішчаць. Але абсалютна адназначна станоўчае заключаецца ў тым, што я — патрыёт сваёй радзімы. А ваенная тэма ўсмактаная з малаком маці. Мы выраслі ў вялізным патоку інфармацыі пра вайну. У рэшце рэшт, у свой час я быў старшынёй раённага штаба чырвоных следапытаў. Мой бацька прайшоў усю вайну. Да нас заўсёды прыходзілі мужыкі, бацькавы сябры-франтавікі. Таму мяне ваенная тэма хвалюе з дзяцінства.

**— Што для вас азначае слова «мужнасць»?**

— Мужнасць — гэта здольнасць ніколі не адмаўляцца ад сваіх прынцыпаў. Я не кажу пра фізічную, карцінную мужнасць: напрыклад, ён абараніў сваю дзяўчыну ад пяцярых хуліганаў... Такой гераічнай мужнасцю валодаюць не ўсе. А вось не адмаўляцца ад сваіх прынцыпаў — гэта самая, калі можна так сказаць, мужная мужнасць.

**— У канцэртах, якія прайшлі на гэтым тыдні ў Беларусі, вы прысвячалі песню «Камікадзе» свайму мужнаму сябру Леаніду Філатаву...**

— Так, мы з Леанідам гадаваліся на адной «градцы» нашага часу. Ён — мой сябар. І, шчыра кажучы, у мяне сяброў — пальцаў на адной руцэ будзе больш. Мы можам не тэлефанаваць адзін аднаму, не бачыцца і не пісаць лісты. Але мы дакладна ведаем, што мы адзін у аднаго ёсць. Сапраўднае сяброўства для мяне — не дастаць чалавеку лекі з Аўстраліі, калі ён захварэў. Гэта зробіць кожны прыстойны чалавек, калі ў яго ёсць такая магчымасць. Сяброўства — гэта нашмат вышэй, гэта веданне, што гэты чалавек ёсць у цябе, а ты — у яго.

**— А ці ёсць у вас ворагі?**

— Зразумела, ёсць. Але я дажыў да таго моманту, калі я дазваляю сабе мець зносіны толькі з тымі людзьмі, якія мяне любяць. Я не прашу, каб мяне ўсе любілі. Гэта нармальна, калі я камусьці не падабаюся. Калі ласка, але я праходжу міма такіх людзей, мне яны нецікавыя, як і я ім, зрэшты. І я цудоўна сябе адчуваю...

**— Як вы ставіцеся да сучаснай эстрады і папулярнай музыкі?**

— Сябры мне ўжо забараняюць гутарыць пра сучасную эстраду. Кажуць, што ў такі момант я падобны на параноіка з сіндромам навязлівага стану. І я з імі згодны. Што пра яе казаць? Эстрада грашавітая, вось і ўсё. Грошы — добрая рэч, але толькі тады, калі яны з'яўляюцца сродкам для дасягнення мэты, а не мэтай. Гэта жахліва, калі ўсё робіцца толькі ў імя грошай, дзе б гэта ні было...

**— А як вы самі ставіцеся да багацця?**

— Вельмі паважліва. Калі багацце сумленна нажатае і дазваляе жыць добра і іншым людзям. Я дрэнна стаўлюся да дармаедскай беднасці, чым пакутуе палова насельніцтва нашай краіны. Дзевяць дзён святаў, потым яшчэ дзесяць... і потым крычаць, што мы хочам адпачываць на Гаваях. Працаваць трэба, родныя! Нічога не рабіць і жыць добра — так не бывае. Я люблю нармальных заможных людзей і імкнуся дапамагаць нармальным бедным, якія працуюць, а не крычаць на мітынгах пра сваю беднасць.

**— Вы заўсёды казалі, што вельмі любіце Ленінград, а як вы зараз адносіцеся да Санкт-Пецярбурга?**

— Я вельмі рады, што майму гораду вярнулі першапачатковае і правільнае імя, але я — ленінградзец. І гэта не эпатаж. Я сустракаў некалькіх бабуль за мяжой, якія з'яўляюцца сапраўднымі санкт-пецярбуржкамі. І мае ўнукі будуць імі. Але я, паўтараю, — ленінградзец. І мне абсалютна нецікава, чыё імя было пакладзена ў аснову назвы «Ленінград», я ніколі не меў на ўвазе Уладзіміра Ільіча. Ведаеце, маю жонку зваць Аленай, можна лічыць, што гэта яе імем быў названы мой горад.

**— І на сцэне, і ў жыцці вы робіце ўражанне абсалютна моцнага духам чалавека. А ці ёсць у вас, нарэшце, нейкія слабасці?**

— Канешне, ёсць. У мяне была адна вялікая слабасць, я быў запальчывым і нястрыманым, і гэта мяне вельмі засмучала. Але калі я «завязаў» з Бахусам, усё стала на свае месцы. Зараз трэба непараўнальна больш, каб выбіць мяне з сядла. Адзінае, што мяне выводзіць з сябе заўсёды, дык гэта толькі хамства і жлобства.

**Ілона ІВАНОВА.**
**Фота Аляксандра ЛІЦІНА.**



